ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica. N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Гад XXX. Но. 287 Нью Ёрк — сакавік — 1981 — March — New York Vol. XXX. № 287

## ТРЫВОЖНАЕ

Кожны крок са спадзевам
трыножым,
Слоў, вызвольных, сьпісалі тамы;
I ў сьвятынях укленчваем: „Божа,
Збаў наш Край ад чырвонай чумы!"

Маўкліня ў „небесі" ... З сьветлай
марай
Сакавік славім, Слуцкі чын ...
А нячысьцікі валадараць
Каля Нёману, ля Случы ...

Ня зьлічыць „достижений"
прыблудаў:
Лік нявінных ахвяр ня зьлічыць.
Круцяць, чмуцяць, агнём Асінбудаў
Асьляпляюць мазгі ільлічы.

І чамусьці на Менскім напрамку
Страшна ціха ... Ляглі ўсе няўжо?
Услаўляе прыгонную лямку
Хор культурных тхароў і смаўжоў.

Атрафіркі там ёсьць і такія:
„I Ушачы мае — Масква ..."
(Пацярухаю, Лось Еўдакія,
Натаптана твая галава.)

Разгуляліся ведзьмы і „бесы",
Янычары ў тон тнуць кагадзе ...
Дзе вы, дзе вы, нашы Валесы —
Чалавечая годнасьць дзе?

Кукабаку даў Бог ... Небараку
На гулагскім калечаць крыжы ...
Можа, Пушчы Язэпа сабаку
Папрасіць вартаваць рубяжы?

Рубяжы беларускага слова,
Беларускай душы рубяжы:
Каб жыла беларуская мова,
Каб народ беларускі жыў.

Дзе бязвольле, адпорнасьці мала,—
Чынгісханіц бязбожная Русь ...
Несьмяротны Янка Купала,
Малі Бога за Беларусь!

1980 г. **Міхась Кавыль**

## ПРА РЭЛІГІЙНЫ СТАН НА БЕЛАРУСІ

Ангельскі інфармацыйны бюлетэнь "Keston News Service" № 113, 16. 1. 81) падаў пра візыт Мітрапаліта Менскага й Беларускага Філарэта, экзарха (прадстаўніка) Маскоўскага Патрыярха, у Лёндан, дзе Філарэт прабыў дзесяць дзён, меў сустрэчу з Архіепіскапам Кантэрбурыйскім, галавой Англіканскае Царквы, ды іншымі царкоўнымі лідэрамі. На прэсканфэрэнцыі ў Лёндане Мітрапаліт Філарэт расказаў пра рэлігійнае жыцьцё на Беларусі.

На Беларусі, сказаў ён, цяпер 370 праваслаўных прыходаў, абслугоўваных 383 сьвятарамі. Існуе таксама манастырская грамада: 33 манашкі й 15 манахаў (у бюлетэні, нажаль, не сказана, у якіх манастырох яны знаходзяцца).

Апрача праваслаўных, на Беларусі налічваецца 104 каталіцкія парахвіі, наймаладзейшая зь іх нядаўна была заснаваная ў Менску. „Менская каталіцкая парахвія, — сказаў Мітрапаліт — карыстаецца для багаслужбаў капліцай на гарадзкім магільніку".

На Беларусі ёсьць таксама больш за 100 баптысцкіх брацтваў, брацтвы пяцьдзесятнікаў, адвэнтыстых, гэбрэі (якія маюць, сказаў Філарэт, сынагогу ў Менску) і пэўная колькасьць мусульманаў (галоўна ў раёне Горадні). Ёсьць таксама на Беларусі стараверы, але іх ня шмат і жывуць яны раськідана, даволі далёка ад вялікае свае грамады ў Гомелі.

Мітрапаліт Філарэт адзначыў, што духоўныя сэмінарыі выпушчаюць замала праваслаўных сьвятароў, каб запоўніць вакантныя месцы. На Беларусі шырака практыкуецца затым высьвячаньне ў сьвятары кандыдатаў спасярод прыхаджанаў. Больш актыўныя прыхаджане праходзяць вышкаленьне зь сельскімі дыяканамі, якія рэкамэндуюць іх пасьля свайму епіскапу ў сьвятары. Па зацьверджаньні кандыдатуры епіскапам, кандыдат павінен здаць экзамен — „асноўны багаслоўскі мінімум", як сказаў Філарэт, пасьля чаго кандыдата высьвячаюць у дыяканы. Гэткаму дыякану прапануецца тады запісацца на завочны курс багаслоўя. Лік кандыдатаў на гэткія курсы, сказаў Філарэт, значна перавышае колькасьць даступных месцаў. I дзеля гэтага зь 15-ёх кандыдатаў зь Беларусі ў 1980 годзе прынятых было толькі пяцёх.

Мітрапаліт Філарэт казаў пра адданасьць людзей Царкве, вялізарны лік выпадкаў хрышчэньня дзяцей, заказваньня багаслужбаў, гэткіх як, прыкладам, паніхіда; гаварыў пра іншыя праблемы, перад якімі стаіць Царква. Філарэт прызнаўся, што дзейнасьць Царквы абмежаная законамі, што рэлігійнае жыцьцё адбываецца выключна ў межах царквы: жыцьцё літургічнае, малітоўнае. Царква, сказаў ён, ня можа займацца якой-бы там ні было грамадзкай працай і дзеля гэтага яна засяроджваецца на праўдах праваслаўя, сьветчачы пра гэтыя праўды сваім існаваньнем.

На прэсканфэрэнцыі, нажаль, мала часу было на пытаньні. Адзін вернік папытаўся пра навучаньне дзяцей рэлігіі, чым, як ведама, Царква не займаецца. Філарэт адказаў, што гэта — адна зь цяжкасьцяў, перад якімі стаіць Царква, паколькі навучаньне дзяцей пакінута выключна на бацькоў. Мітрапаліт сказаў, што ён раіць сваім сьвятаром зьбіраць усіх дзяцей, якія прыходзяць да прычасьця, у вадну групу перад літургіяй і праводзіць зь імі гутаркі.

Вышэй паданая статыстыка Мітрапаліта Філарэта пра царкоўнае жыцьцё на Беларусі йдзе ўразрэз зь весткамі, якія трапляюць на Захад неафіцыйнымі шляхамі, пра перасьлед Рэлігіі ў Савецкім Саюзе ды зачыняньне цэркваў.

У мэмарандуме Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з 8-га верасьня 1980 году, зьмешчаным, разам зь іншымі падобнымі сьветчаньнямі, у афіцыйным выданьні Сэнату амэрыканскага Кангрэсу (96-ты Кангрэс, 2-я сэсія, Рапарт № 96-1016, 16. X. 1980), пададзеная гэткая статыстыка сьвятароў на Беларусі ў 1970 годзе: праваслаўных 142 сьвятары, каталіцкіх — 22. Лік сьвятароў, сказана ў мэмарандуме, паступова меншае ў выніку арыштаў больш актыўных сьвятароў, выміраньня старых ды нястачы папаўненьня.

Уладыка Філарэт у Лёндане нічога не сказаў пра тое, што адзіная праваслаўная духоўная сэмінарыя на Беларусі ў Жыровічах была зачыненая ў 1963 годзе.

Статыстыка Мітрапаліта Філарэта пра каталіцкія парахвіі на Беларусі разыходзіцца таксама з дадзенымі, якія прывёў праф. Томас Бэрд у сваім сьветчаньні перад амэрыканскай урадавай камісіяй 21 травеня 1980 году (гл. HEARINGS before the COMMISSION ON SECURITY and COOPERATION in EUROPE. 96th Congress. Second Session on Implemention of the Helsinki Accords. Vol. XIV, p. 65). Праф. Бэрд карыстаўся дадзенымі, апублікаванымі Кэстанскім Каледжам у Лёндане ў верасьні 1979 году. Паводля гэтых дадзеных, на Беларусі ў 1979 г. налічвалася 65 рыма-каталіцкіх парахвіяў і 65 сьвятароў.

### Колькі людзей у СССР верацъ у Бога?

У гутарцы, перададзенай праз радыё-Масква 24 красавіка 1979 году, дырэктар Інстытуту навуковага атэізму Акадэміі грамадзкіх навукаў пры ЦК КПСС праф. Павал Курачкін сказаў:

„Сацыялістычныя абсьледваньні, праведзеныя ў шэрагу вобласьцяў, раёнаў і гарадоў РСФСР, Украіны, **Беларусі,** рэспублікаў Сярэдняе Азіі, Малдавіі, Прыбалтыкі, паказваюць, што актыўна веруючых, якія больш-менш рэгулярна пасьцяць, ходзяць да споведзі, наведваюць царкву, каля 8-10% дарослага жыхарства".

Найбольшы лік вернікаў у СССР падаў у 1975 годзе кандыдат філязофскіх навукаў Э. І. Лісаўцаў, інструктар Аддзелу прапаганды ЦК КПСС, сябра рэдкалегіі часапісу „Наука и религия", у сваёй брашуры „Рэлігія ў змаганьні ідэяў":

„Паводля дадзеных, — сказана ў брашуры Лісаўцава, — атрыманых на аснове вывучэньня ўзроўню рэлігійнасьці ў цэлым шэрагу рэгіёнаў Савецкага Саюзу, можна зрабіць выснову, што пад уплывам рэлігіі ў тэй ці іншай ступені ў паасобных рэгіёнах знаходзіцца яшчэ 25-30% дарослага жыхарства".

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ: АКТ І АКЦЫЯ

Адзначаючы штовясны ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, мы заўсёды прыгадваем Акт 25 Сакавіка. Нацыянальна-дзяржаўную незалежнасьць мы ўтаесамляем з **актам,** з пэўным, азначаным гістарычным мамэнтам, які прыйшоў і мінуў, пакінуўшы нам Акт. Але незалежнасьць ня толькі й ня гэтулькі акт, колькі акцыя, актыўнасьць; незалежнасьць — ня дзея, што адбылася, а дзея, што трывае. Незалежнасьць ня мае ў сабе закончанасьці, гэта — цягласьць, працэс. І кажны з нас, кажны ідэйны падданы Беларускае Народнае Рэспублікі, становіць арганічную частку гэтага працэсу — нагэтулькі, наколькі сябе гэткай часткай усьведамляе, наколькі мае ў сабе наважанасьці гэткае ўсьведамленьне захаваць. Незалежнасьць пачынаецца ад акту ўсьведамленьня ды ператвараецца ў акцыю ўжыцьцяўленьня.

Незалежнасьць — гэта ня нехта, хто выступае з прамовамі ці фармулюе дэкларацыі; незалежнасьць — гэта шматдзённае, штодзённае адчуваньне свае людзкое й нацыянальнае годнасьці, культурнае вартаснасьці сябе самога й свайго народу.

Незалежнасьць — гэта веда свае мінуўшчыны, свае культуры, свае мовы. Бо толькі на грунце гэткае веды вырастае вера ў сваё права, выпрацоўваецца пэўнасьць і цьвярдзіня нацыянальнага й чалавечага пачуцьця, дужэе маральная вытрываласьць і стойкасьць, устойлівасьць у грамадзкай працы.

Незалежнасьць — гэта Мэта, з гледзішча на якую ацэньваюцца й адбіраюцца із штадзённага патоку факты ды ўмуроўваюцца ў цьвярдыню нашага сьветагляду.

Незалежнасьць перад тым, як стацца калектыўнай, нацыянальнай, зараджаецца, умацоўваецца ды выяўляецца індывідуальна.

Незалежнасьць у кажным з нас адзначаецца ступеньчасьцяй; незалежнасьць гэта — інтэлектуальна-духовы набытак, што нарошчваецца, большае з кажным засвоеным родным словам, кажным усьведамленым фактам нацыянальнае мінуўшчыны, кажнай успрынятай дэталяй беларускае сучаснасьці.

Незалежнасьць — гэта стан і ўзровень сьведамасьці кажнага ўпаасобку ды ўсіх разам. Незалежнасьць у кажным з нас расьце або адмірае ў меру нашае зацікаўленасьці ў Беларусі, нашага інтэлектуальнага й духовага кантакту зь ёй.

Незалежнасьць — гэта акт волі, які стаецца акцыяй, практыкай жыцьця.

**Я. З.**

## СПАДЧЫНА БАЦЬКОЎ; "АГЛЕДЗІНЫ"

**(ДА 100-ГОДЗЬДЗЯ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Я. КУПАЛЫ Й Я. КОЛАСА)**

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

### „Пад жорсткім напорам вульгарызатараў"

У дакладзе таго-ж Івана Мележа на ленінскае стагодзьдзе згадваліся таксама й прозьвішчы пакутнікаў, што „былі на доўгія гады адарваныя ад роднай зямлі, ад творчай працы": Янка Скрыган, Сяргей Грахоўскі, Мікола Хведаровіч, Уладзімер Дубоўка, Рыгор Бярозкін, Алесь Звонак, Алесь Пальчэўскі, Станіслаў Шушкевіч, Юрка Гаўрук, Ядзьвіга Бяганская.

Гэта з тых, што былі замоўкшы, калі не навечна, дык „на даўгія гады". А тыя, што засталіся былі „тварыць"? — „Творчыя арганізацыі, — напісаў пасьля пра іх Міхась Ярош у кнізе „Янка Купала і беларуская паэзія" (Мінск, 1971, б. 199), — асабліва 'Маладняк' (БелАПП), перажывалі крызіс. Узмужнеўшая вульгарна-сацыялягічная крытыка травіла многіх паэтаў, абвінавачваючы іх ува ўсіх сьмяротных грахох, нават у варожым стаўленьні да савецкай улады ... Пад жорсткім напорам вульгарызатараў паэты нярэдка вымушаны былі пераглядаць свае ранейшыя творчыя прынцыпы, 'перабудоўвацца' ".

Як казаў Пятрусь Броўка на згадваным пісьменьніцкім пленуме ў 1962 годзе: „Усе мы аддалі пэўную даніну культу".

Дык выкінуўшы „з радасьцю" „вялікага Сталіна" з Купалавае спадчыны, трэба ставіць далейшае пытаньне: Ці не адмовіўся-б Янка Купала наагул, калі не ад усяго, дык ад большае часткі таго, што ён напісаў пасьля свае спробы самагубства ў 1930 годзе ў атмасфэры нішчэньня дзяржаўным паліцыйным апаратам „усяго жывога, здаровага і здольнага мысьліць"? Да разгляду гэтага пытаньня — у дачыненьні да Купалавае творчасьці й творчасьці ўсіх іншых — мы забавязаныя маральна купалаўскім запаветам „і ў белы дзень, і ў чорную ноч" рабіць агледзіны спадчыны бацькоў.

### „Падключацца да памяці" народу

Гэткае-ж пытаньне датычыць і да літаратурнае крытыкі. Пацьверджаньне гэтага знаходзім у нядаўнай заяве Алеся Адамовіча пра тых, хто выступаў на Другім пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў СССР у пытаньнях крытыкі ў сакавіку 1935 году: „Каб яны ўсе былі жывыя, — піша Алесь Адамовіч з 45-гадовае рэтраспэктывы, — і атрымалі сёньня магчымасьць сьцерці або спаліць словы, якія так грозна (і палахліва) вымаўлялі ў розныя гады, думаю, што ахвотна і пасьпешліва зрабілі-б гэта ..." („ЛіМ", 4.IV.80)

Пытаньне „ад чаго адмаўляцца", каб ведаць чаго трымацца, датычыць, зразумела, ня толькі да красапісьменства й літаратурнае крытыкі, але й да ўсяго мастацтва, а таксама й гістарыяграфіі, да разуменьня ўсяе свае мінуўшчыны, з чаго арганічна выплывае й разуменьне сучаснасьці. Адам Мальдзіс, рэцэнзуючы кнігу А. Лазарука „Станаўленьне беларускай паэмы", пашырыў быў крыху выказваньне сваіх літаратурных сяброў: „У 30-я гады вульгарныя сацыёлягі, па сутнасьці закрэсьлівалі ўсю беларускую літаратуру XIX стагодзьдзя". („ЛіМ", 14.1.69) I ці толькі гэта.

Дарэчы, Янка Саламевіч, ушаноўваючы ў газэце „Зьвязда" за 16 лістапада летась, з нагоды 75-годзьдзя жыцьця, „дзядзьку" Янку Скрыгана ,аднаго з тых, што „былі на доўгія гады адарваныя ад роднай зямлі, ад творчай працы", адзначыў важнасьць Скрыганавых літаратурных партрэтаў пра пісьменьнікаў 1920-1930-х гадоў. „Гэта, — кажа Саламевіч пра Скрыганавы ўспаміны, — вельмі важная работа пісьменьнікаў у галіне мэмуарыстыкі, якая ў нас пакуль бедная. Асабліва мала зьвестак пра пісьменьнікаў даваеннага часу".

Мы ведаем, чаму мала. Дэвіз „ніхто не забыты", як ён ужыцьцяўляецца ў савецкім афіцыйным друку, датычыць толькі да ахвяраў брунатнага, але ня чырвонага фашызму.

Цяпер у літаратурнай творчасьці мы з асаблівай увагай варочаемся назад, да вытокаў сваіх. Алесь Адамовіч, пішучы пра пэрыяд апошняе вайны, слушна адзначыў нядаўна: „Вялікая справа і шмат значыць для нацыянальнай літаратуры — умець слухаць свой народ, падключацца да яго памяці". („ЛіМ", 25.IV.80) I Алесь Адамовіч абмяркоўваючы гэтую праблему ў шырэйшым міжнародным кантэксьце, паказвае на добры прыклад нямецкага пісьменьніка Гэрмана Канта (старшыня ўсходнянямецкае пісьменьніцкае арганізацыі). Кант, кажа беларускі крытык і шукальнік праўды, „ня з тых Немцаў, што хаваюць галаву ў 'пясок забыцьця' і спадзяюцца, што іншыя людзі ў іншых краінах усьлед за імі зробяць тое-ж самае са сваімі галовамі. Ён ведае, што ўся праўда патрэбная, неабходна перш за ўсё і больш за ўсё самім Немцам, нямецкаму народу". (Тамсама)

Алесь Адамовіч падгледзеў, між іншага, што Немцы, калі яны апынаюцца сярод прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, дык, памятаючы часы Гітлера, намагаюцца паказваць сябе „проста людзьмі". I Алесь Адамовіч, асэнсоўваючы ганебныя часы гітлершчыны ставіць дыягноз ды прыпісвае лек: „Пасьля таго, як пацукалоў (Гітлер — Я.З.) завёў цябе да іх (ад „проста людзей" — Я. З.), павабіўшы ў 'звышлюдзі', вяртаньне даецца нялёгка. **I не праз забыцьцё мінулага, а праз самаачышчэньне праўдай, праз суд над мінулым**". (Тамсама)

Сказана красамоўна й моцна! Але не да канца. Бо наколькі Немцам патрэбная праўда пра „пацукалова"-Гітлера, нагэтулькі, калі ня больш, Беларусам патрэбная праўда пра „пацукалова"-Сталіна. Інакш, паўгалавы застаецца схаванай у „пяску забыцьця".

Але-ж! „Вяртаньне даецца нялёгка", ды вяртацца трэба — „праз суд над мінулым".

Пытаньне агледзінаў спадчыны сталінскага 30-годзьдзя, аднак, пасьля таго, як была сьцьверджаная наяўнасьць у ёй „непатрэбных прывескаў", гэтак і ня было разгледжанае, ня было нат пастаўленае ўва ўсёй сваёй трагічнай паўніні й самаачышчальнай патрэбе.

### Што — направа, а што — налева?

Практычна зь некаторымі „непатрэбнымі прывескамі" партыйныя бюракраты спрабавалі сваім часам справіцца ціхама, за зачыненымі дзьвярыма, пры дапамозе сакрэтных адміністрацыйных цыркуляраў. Калярытны сьлед гэтае тапорнае апэрацыі застаўся на старонках газэты „Літаратура і Мастацтва" ў форме рэпартажа М. Замскага „Квадратура кругу". Вось частка сьветчаньня:

„У Мазыры, на чыгуначнай станцыі, невядома зь якіх часоў стаіць цагляны пакгаўз. Звычайны пакгаўз. I звонку, і ў сярэдзіне пакрыты паравозным курoдымам, які, здаецца, ўеўся ў цэглу, у драўляныя перакрыцьці, у цымэнтовую падлогу. У такім памяшканьні можна хаваць цьвікі, запасныя часткі, утыль. Але тут ужо вось паўтара дзесятка год ляжаць кнігі.

„У аднэй з бакован гэтыя кнігі наваленыя пад самую столь ...

„Дзьверы бакоўкі выходзяць у 'залю'. На падлозе тут раськіданыя кучы кнігаў, на якіх, забраўшыся з нагамі, сядзяць жанчыны. Узмах рукі — кніжка ляціць налева. Узмах — направа.

„Цікаўлюся ў загадчыка кніжнай базы (так называецца пакгаўз) — пажылога мужчыны з даўно нятюленым тварам: які лёс чакае кнігі, што паляцелі налева, а які — што направа.

„ — Што налева — на сьпісаньне, што направа — загадана пакуль што не чапаць. Відаць, пойдзе на ўцэнку.

**(Заканчэньне на 5-ай бач.)**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# К. МАЗУРАЎ ВЫВЕДЗЕНЫ З ЦК КПСС

Як падала газэта „Нью Ёрк Таймс" (5. III), Кірыла Мазураў, колішні першы сакратар кампартыі Беларусі, а пасьля — першы заступнік савецкага прэм'ера Касыгіна, не ўвайшоў у новы ЦК КПСС, абраны на 26-ым партыйным зьезьдзе, што адбыўся ў лютым сёлета. Пра Мазурава сваім часам заходнія камэнтатары згадвалі, як пра магчымага наступніка Касыгіна. У 1978 годзе, аднак, 62-гадовы Мазураў быў выведзены із складу Палітбюро, найвышэйшага органу ўлады ў Савецкім Саюзе, з прычыны, быццам-бы, „стану здароўя й на собскую просьбу" („НЁТ", 28. XI. 78).

Як пісала тады газэта „Вашынгтон Пост" (4. XII. 78), „дняпроўская мафія" Брэжнева (Шчарбіцкі, Кірыленка, Чарненка — усе цяпер у складзе Палітбюро) узмоцнілася. Мазураў належаў на вярхох улады да групы, якую можна было-б назваць „партызанскай мафіяй" (Машэраў, Зімянін).

У сьнежні 1973 году, калі на вярхох савецкае ўлады вяліся спрэчкі пра пляны палепшаньня савецкае эканомікі шляхам скасаваньня саюзных рэспублікаў — прапанова сябры Палітбюро Расейца Суслава — Мазураў, як пісалі заходнія назіральнікі, заняў быў пазыцыю у вабарону рэспублікаў.

У складзе новага ЦК КПСС, зацьверджанага 26-м зьездам КПСС, „дняпроўская мафія" яшчэ больш узмоцнілася: у сябры-кандыдаты ЦК уведзеныя сын Брэжнева Юры, зяць Брэжнева Юры Чурбанаў ды памочнік Брэжнева з адпаведным прозьвішчам — Анатоль Блатаў.

# БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ ЛЕКЦЫІ Ў ЛЁНДАНЕ

Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане ў бягучым акадэмічным годзе, 15-ым з чаргі, мае гэткую праграму выкладаў:

Гай Пікарда — „Беларускія рэлігійныя гімны" (18. XII).

Айцец Аляксандар Надсон — „Беларускія брацтвы ў XVII ст." (12. II).

Праф. Джэймс Дынглі — „Пасткі й воўчыя ямы ў беларускай гісторыі" (12. III).

Праф. Пітэр Майо — „Пачаткі й разьвіцьцё беларускае мовы". (2. IV).

Праф. Арнальд МакМілін — „Тарас Шаўчэнка й беларуская літаратура (21. V).

Мікола Паўлоўскі (былы сябра Саюзу Мастакоў БССР) — „Максім Багдановіч і мастацтва" (18. VI).

Выклады адбываюцца ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны (39 Голдэн Роўд, тэл. 01-445-5358).

# НІЛ ГІЛЕВІЧ І ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН

**Ад Рэдакцыі:** Артыкул напісаны у кастрычніку 1980 г.

Ведамы беларускі паэта, літаратурны крытык і літаратуравед, а таксама дасьледвальнік беларускай народнай паэзіі Ніл Гілевіч і пяць год за яго малодшы паэта Генадзь Бураўкін самым апошнім часам зьвярталі на сябе асаблівую ўвагу. Ніл Гілевіч у верасеньскім нумары часапісу „Маладосьць" за сёлетні год зьмясьціў вельмі цікавы артыкул пра творчасьць Генадзя Бураўкіна пад вымоўным загалоўкам „І стаў вытокам радасьці радок". У артыкуле гэтым, ацэньваючы паэтычную прадукцыю Генадзя Бураўкіна, выказаў Ніл Гілевіч у ейным прыгадзе галоўныя свае прынцыпы, як літаратурнага крытыка. Ён пачынае гэты артыкул наступнымі, як-жа глыбокімі й трапнымі заўвагамі:

„... калі паэзію разглядаць як спэцыфічны від грамадзка-карыснай дзейнасьці (а не як забаву), калі паэзія — лёс, адзіна магчымая форма існаваньня (а не рамяство і не захапленьне), то паэта пачынаецца з пачуцьця бацькаўшчыны, радзімы, з глыбока ўсьвядомленага адчуваньня сваёй прыналежнасьці да народу, неад'емнай часьцінкай якога зьяўляешся, кроўнай прывязанасьці да зямлі, на якой нарадзіўся. Шчыра кажучы, з гэтага ён пачынаецца й гэтым „трымаецца", жыве, існуе, існуе як творчая асоба, у гэтым сапраўдная, глыбінная сутнасьць усёй яго жыцьцядзейнасьці... Усё, што робіць паэту паэтам — пачынаецца адсюль. І ўся моц-сіла ягонага слова — у гэтым-жа. Бяз гэтага сапраўднага паэты няма і быць ня можа. Бо паэта — гэта ня рыфмач, ня вершаскладальнік. Найбольш дакладны сынонім да слова паэта — патрыёт ,ці, як цудоўна кажуць нашы сябры Баўгарцы — „радалюбец", што значыць верны сын свайго роду — племені, той, хто горача любіць свой род і самаахвярна служыць дзеля яго ўзвышэньня й росквіту".

Гэты свой пагляд на паэту Ніл Гілевіч ілюструе прыкладамі ня із сваёй паэтычнай творчасьці, а з творчасьці Генадзя Бураўкіна. Дык, ідучы сьледам за Нілам Гілевічам, працытуем і мы тут урыўкі з трох Бураўкінавых вершаў самых розных гадоў. Гэтак, у вершы „Полаччына" Генадзь Бураўкін піша:

Ня шукайце красы за морамі.
Узьбярэжжаў з крышталёвымі зорамі, —
Прыяжджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.
Тут азёры, як неба, сінія,
У чаротах чароды гусіныя,
А на дне Млечным Шляхам сьвецяцца
Трапяткія гурты язіныя.

А вось цытата з Бураўкінавага верша „Полацкая баляда":

Толькі ўслухацца лепш у марозны спакой,
Толькі вочы закрыць на хвіліну—
І пачуеш дыханьне далёкіх вякоў,
Старадаўнія песьні-быліны.

І ня проста ўжо рыпнуў запозьнены крок
І дымком пацягнула ад фабрык,—
Гэта рыпнуў Скарыны друкарскі станок,
Гэта пахне друкарскаю фарбай.

Рукавом выцер потны, задумлівы твар,
Стаў пад лютаўскім ветрам, ля сходак,
З хрустам плечы расправіў стамлёны друкар,
Мой разумны, няўрымсьлівы продак.

І напошку радкі з Бураўкінавага верша „Край мой . . .":

Ты не сьляпіў вачэй. Быў просты
Ва ўсе вякі твой родны ўзор:
Гаёў бялюткая бяроста,
Густы блакіт лясных азёр,
І лён, зусім як неба сіні,
І ўсе ў рамонках берагі . . .
Мой беларускі, мой адзіны
Край, ад калыскі дарагі . . .

Дык вось як радкамі трох вершаў Генадзя Бураўкіна характарызаваў Ніл Гілевіч самога сябе, як паэту. І схарактарызаваў выдатна, як лепш ня трэба. Але разам з тым ня горш схарактарызаваў ён у сваім артыкуле й Генадзя Бураўкіна. Пра творчасьць Генадзя Бураўкіна пісалася ўжо шмат у савецкіх літаратурных перыёдыках. Але ніхто гэтак глыбака й трапна яго не схарактарызаваў, як зрабіў гэта Ніл Гілевіч у сваім артыкуле. Ягоны артыкул „І стаў вытокам радасьці радок" займае 8 бачынаў вялікага фармату часапісу „Маладосьць". У ім няма абсалютна нічога лішняга, непатрэбнага. І тым, што з усіх сяньняшніх беларускіх падсавецкіх крытыкаў ацаніў Ніл Гілевіч найлепш Генадзя Бураўкіна, тым самым найлепш выявіў ён і сябе, як літаратурнага крытыка.

Шмат месца адводзіць Ніл Гілевіч у сваім артыкуле ведамай паэме Генадзя Бураўкіна „Ленін думае пра Беларусь" (у гадох сталінскіх пагромаў напэўна напісаў-бы „Сталін думае пра Беларусь"), а паэма гэтая займае ня менш важнае месца ў творчасьці Генадзя Бураўкіна. Але як ня мудрыць, а нельга сказаць, каб паэма гэтая была чым-колечы сугучнай і з артыкулам Ніла Гілевіча, і з творчасьцяй Генадзя Бураўкіна. Ёсьць усе асновы думаць, што яна іграе ролю прыказкавай у падсавецкай Беларусі „візы для друку", коштам якой магчыма было прапхнуць праз цэнзурныя загарадкі ўсё нясугучнае, а то й супярэчнае зь ёй.

Дзіўны:: выпадкам здарылася, што й Генадзь Бураўкін, і Ніл Гілевіч сёлета фігуруюць у сьпіску кандыдатаў на атрыманьне Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне беларускай літаратуры. У першым „Абмеркаваньні твораў, вылучаных на атрыманьне Дзяржаўных прэміяў БССР", надрукаваным у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 12 верасьня сёлета, фігуруе згаданая Бураўкінава паэма „Ленін думае пра Беларусь" і сьвежы зборнік паэзіі Ніла Гілевіча „У добрай згодзе". Генадзь Бураўкін кандыдуе на гэтую прэмію яшчэ упяршыню, тады калі Ніл Гілевіч кандыдаваў ужо няраз, хоць прэміі не атрымаў ніразу.

Няма сумлеваў, што і Ніл Гілевіч і Генадзь Бураўкін у сваёй дасюлешняй творчасьці ляяльна аддавалі сваю даніну ўслаўленьню партыі й ейнай практычнай палітыкі. Тыя-ж паэты й пісьменьнікі, што ад гэных нацыянальных вытокаў адарваліся, былі лёгка ўзнагароджваныя, хаця былі яны адно „рыфмачамі" й „рамесьнікамі", як назваў іх трапна Ніл Гілевіч.

Але не ў партыйнай і ўрадавай узнагародзе асноўны сэнс літаратурнай творчасьці, а ў ейных нацыянальных вытоках. І таму і Ніл Гілевіч, і Генадзь Бураўкін, як і некаторыя іншыя паэты й пісьменьнікі, ім падобныя, а ня гэныя „рыфмачы" й „рамесьнікі", першыя на сяньняшнім беларускім літаратурным даляглядзе. І ў гэтым бясспрэчная іхная заслуга для беларускай літаратуры.

**Ст. Станкевіч**

### „АМЭРЫКАНСКІЯ ЭТНІЧНЫЯ ГРУПЫ"

У выдавецтве АРНО, кніжным выдавецтве газэты „Нью Ёрк Таймс", выйшла 47-томавае выданьне „Амэрыканскія Этнічныя Групы — Эўрапейская Спадчына". Др. Вітаўт Кіпель — адзін зь пяцёх сябраў рэдкалегіі гэтага выданьня. Кажная з выдрукаваных кніжак перад гэтым была абароненая як доктарская дысэртацыя на амэрыканскім унівэрсытэце ды была рэкамэндаваная сябрамі рэдкалегіі да друку. У кольках кніжках гэтага шматтомавага выданьня закранутыя пытаньні беларускае групы ў Амэрыцы, а таксама праблемы беларускіх імігрантаў у часе масавага выезду зь Беларусі.

# У ПАМЯЦЬ ДР. СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА

## ЧЫКАГА ЎСПАМІНАЕ НЯБОЖЧЫКА

Беларуская калёнія ў Чыкага зь вялікім сумам прыняла вестку аб сьмерці сьвятой памяці д-ра Станіслава Станкевіча, выдатнага беларускага журналістага, рэдактара газэты „Беларус", аўтара шмат якіх літаратурных публікацыяў ды няўтомнага грамадзкага й арганізацыйнага дзеяча.

Чыкага любіла Станіслава Станкевіча і часта запрашала Яго да сябе, і таму нічога дзіўнага, што Ён, калі толькі мог, з ахвотай наведваў наш горад. Падабалася яму, як сам часта казаў, чыкагаўская атмасфэра. Чуўся тут добра як у найлепшых прыяцеляў. Прыймалі й гасьцілі мы яго вельмі міла і з вялікай увагай слухалі ягоныя рэфэраты й прамовы. Быў ён захоплены тым, што розныя беларускія групы ў Чыкага, задзіночаныя ў Каардынацыйным Камітэце, згодна супрацоўнічаюць у супольных імпрэзах і сьвяткаваньнях ды ахвотна памагаюць грашова так дарагой яму газэце. Апошнім часам ён нават вельмі хацеў, каб наступны зьезд Беларусаў адбыўся ў Чыкага.

На ўрачыстую Службу Божую за супакой ягонай сьветлай душы 9-га лістапада 1980 г. ў царкве Хрыста Збаўцы сабралася вялікая грамада ягоных прыяцеляў, каб памаліцца і ўспомніць перад Богам гэтага вялікага й ахвярнага працаўніка, які цэлае сваё жыцьцё аддаў на службу беларускаму народу.

Па Службе Божай усе сабраліся ў залі, у якой ён так часта прамаўляў да нас, каб пагаварыць і ўспомніць аб жыцьці, працы й заслугах вялікага сына Беларусі.

Насамперш а. Архімандрыт Уладзімер расказаў аб паховінах на беларускім магільніку ў Іст Брансўіку. Зь вялікай урачыстасьцяй, казаў а. Уладзімер, хавалі Станіслава Станкевіча сабраныя там пры сям'і Нябожчыка сьвятары, прыяцелі й знаёмыя. Дзень быў сонечны, прыгожы. І здавалася, што наш дарагі Стась разьвітваўся із сваімі суродзічамі, сябрамі й супрацоўнікамі і жадаў ім радаснай і плённай працы на гэтай ніве, якой ён аддаў амаль цэлае сваё жыцьцё.

Др. Вітаўт Рамук, былы вучань Беларускай Гімназіі ў Вільні, у сваім абшырным дакладзе расказаў аб віленскіх часох жыцьця й працы Станіслава Станкевіча, як маладога студэнта й беларускага дзеяча. Вацлаў Пануцэвіч падкрэсьліў стойкасьць характару Станіслава ў часы ягонай цяжкай адміністрацыйнай працы падчас нямецкай акупацыі Беларусі. Прамаўлялі яшчэ Ванда Махнач, Гэнрык Макоўскі, Вера Рамук і іншыя, адзначаючы заслугі Станіслава ў жыцьці беларускага народу там на Бацькаўшчыне і тут на Чужыне.

Адсьпяваньнем „Вечная Памяць" беларуская грамада ў Чыкага разьвіталася із сваім дарагім прыяцелем і братам Станіславам Станкевічам, пастанаўляючы ў сваім сэрцы, каб за яго прыкладам яшчэ болей працаваць на карысьць адраджэньня нашае Бацькаўшчыны.

**А. Б.**

## ЛІСТ З ПОЛЬШЧЫ

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй зьмяшчаем ліст з Польшчы (не падаючы прозьвішча дапісчыка дзеля прычынаў бясьпекі) — водгук на сьмерць д-ра Станіслава Станкевіча.

***

„Зь вялікім узрушэньнем і горкаю сьлязою жалю перасылаю маё слова спачуваньня з прычыны сьмерці Галоўнага Рэдактара газэты ‚Беларус' сьв. пам. д-ра Станіслава Станкевіча. Нечаканая сьмерць забрала з радоў беларускае эміграцыі (ды ня толькі эміграцыі) аднаго зь перадавых дзеячоў беларускага народу.

„Ягоная няспынная праца й ідэя, зь якою пражыў усё сваё жыцьцё, не пайшлі намарна — сьветчаць пра гэта Ягоныя паховіны, якія былі дакладна апісаныя ў ‚Беларусе'.

„Д-ра Станкевіча я пазнаў толькі зь ягоных публікацыяў, пераважна газэты ‚Беларус'; так і рэшту беларускіх дзеячоў на эміграцыі. Пісаць тут пра Ягоныя заслугі для Бацькаўшчыны хіба будзе лішнім, бо ўжо аб іх сказана іншымі.

„Пішучы гэтыя словы, хачу толькі пажадаць: няхай Ягоны сьветлы воблік застанецца нам у памяці на даўгія вякі ды сьвеціць, як тая праводная зорка, што прывядзе нас на загоны вольнае Бацькаўшчыны!

„Чэсьць Яго Памяці!"

**Рыхтуецца да друку** праца сьв. пам. д-ра Станіслава Станкевіча — „ЯНКА КУПАЛА. НА 100-Я ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ".

## МАЛІТВЫ ЗА СУПАКОЙ ДУШЫ СТАНІСЛАВА

Калі я дзякавала праф. Томасу Бэрду зь Нью Ёрку, вялікаму прыяцелю Беларусаў, за тое, што ён замовіў сьв. Літургію ў царкве Хрыста Спаса ў Чыкага (настаяцель — а. Архімандрыт Ул. Тарасэвіч) за душу сьв. пам. Станіслава Станкевіча, праф. Бэрд адказаў: „Гэта адзінае, што мы яшчэ можам для Яго зрабіць — маліцца за супакой Ягонае душы".

Людзі блізкія й далёкія, знаёмыя й незнаёмыя, працягваюць маліцца асабіста й праз сьвятароў.

Сьв. Літургія і памінальная бяседа адбылася ў Чыкага (пра гэта пішацца побач у карэспандэнцыі А. Б.)

Мелі месца яшчэ сьв. Літургіі ў Чыкага, замоўленыя прыяцелямі Нябожчыка, ды дзьве замовіў праф. і сп-ня Томас Бэрд. Усе сьв. Літургіі адслужыў а. Архімандрыт Уладзімер Тарасэвіч. Пра супольныя малітвы ды памінкі ў Нью Ёрку было пададзена ў студзенскім нумары газэты.

У Бэльгіі за супакой душы сьв. пам. Нябожчыка Станіслава маліўся а. Аўген Смаршчок із сваімі прыхаджанамі. У лісьце да нас а. др. Смаршчок напісаў: „Гэтую вельмі балючую страту (сьмерць др. Ст. Станкевіча) адчувае ўся беларуская эміграцыя да аб'еднаньня якое імкнуўся Магутны Рэдактар на балонках рэдагаванае Ім прэсы. Паховіны Рэдактара гэта пасьветчылі, якды і адначасна той пазытыўны факт яднаньня беларускай эміграцыі ў вабліччы паважнай падзеі у беларускім грамадзка-палітычным жыцьці. Гэткі пацяшаючы факт удзелу й яднаньня можна інтэрпрэтаваць як паказьнік **няглыбокага** разьдзелу беларускай эміграцыі, спрычыненага, як звычайна, індывідуальнай упорыстасьцяй, ды амбіцыямі адзінак, не грамадзтва. Дай, Божа, Вам здароўя дзеля прадаўжаньня вялікае працы Памерлага, якога сапраўды ня лёгка будзе замяніць у дзейнасьці беларускае эміграцыі', як гэта кампэтэнтна выказаў старшыня галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Вечная памяць Нястомнаму Змагару на ніве беларускае Праўды!"

Спадарства Эвэліна й Язэп Пазьнякі з Флярыды замовілі на цэлы год памінаньне Нябожчыка ў багаслужбах ды ўдзел у малітвах за сьв. пам. Станіслава айцоў і братоў Марыянаў.

Наведваюць магілу сьв. пам. Станіслава Станкевіча й моляцца за Яго пераважна парахвіяне царквы Жыровіцкае Маці Божае ў Гайлэнд Парку, часта пры нагодзе наведаньня магілаў сваіх родных.

„Мы радыя, — сказаў прадстаўнік прыходу з Гайлэнд Парку на памінках у Нью Ёрку, — што Нябожчык пахаваны на нашым магільніку, блізка ад нас. Будзем наведваць Яго й маліцца за супакой Ягонае душы".

**З. Станкевіч**

**„Божым Шляхам"** №151, 1980, зьмяшчае: арт. Біскупа Ч. Сіповіча „Рана сьцякае крывёй"; „Малітву Сьв. Францішка Асыскага" (пераклад а. Я. Гэрмановіча); „Катэхэзы"; біяграфію а. Францішка Чарняўскага; нэкралёгі па Л. Галяку й С. Баговічу; пералік перадачаў Ватыканскага Радыё на беларускія нацыянальныя тэмы ў пэрыядзе ад 13. I. 1971 да 16. V. 1977 году; хроніку зь беларускага жыцьця; рэцэнзіі; вершы. Нумар багата ілюстраваны (42 бачыны).

**Веснік Беларускага Эвангельска-Баптысцкага Брацтва** № 7 (бяз даты, але ў 1980 г.) на чатырох бачынках друку зьмяшчае арт. Д. Я. „А калі Хрыстос не ўваскрос . . .", інфармацыю „На Бацькаўшчыне" Т. і Я. Ліхачоў (з датаю 13. III. 1977; пра падарожжа ў БССР), ды даведку да гісторыі выданьня сьпеўніка „Гімны Хрысьціян" Д. А. Ясько зь пералікам ахвярадаўцаў ды інфармацыяй, як яго выпісаць (цана $10); пісаць на адрыс: Mr. H. Sachar, R.D.1. Cranesville, Pa. 16410, USA)

**Артыкул пра колькасьць Габрэяў у кампартыі Беларусі** зьмяшчаны ў англамоўным часапісе „Сов'ет Джуўіш Афэрс" (№ 2, 1980, бб. 51-57). Аўтар артыкулу — Эвэрэт М. Джэйкабс. Габрэяў у КПБ у 1962 г. было 16.000 асобаў, у 1978 г. — 17.900. Агульны лік Габрэяў на Беларусі за гэты час, аднак, зьменшыўся (галоўна ў выніку эміграцыі) із 150.084 у 1959 г. да 135.000 у 1979 г.

Усіх сяброў у КПБ у 1962 г. было 249.700 (зь іх 186.300 Беларусаў) а ў 1978 г. — 542.501 (зь іх 380.103 Беларусы).

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**

